*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)
№ 13 (277)
27 сакавіка 1996 г.
Кошт — 1000 рублёў

**МАСКОЎСКАЯ ПАТРЫЯРХІЯ ПАЙШЛА НА ДРУГІ РАСКОЛ З КАНСТАНЦІНОПАЛЕМ.** Стар. 4.

**ІВАН ФЁДАРАЎ ПАХОДЗІЎ З МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ?** Стар. 7.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **15 САКАВІКА Ў МЕНСКУ НА ПЛЯЦЫ КАЛЯ ОПЕРНАГА ТЭАТРА ПРАЙШОЎ МІТЫНГ «АБАРОНІМ КАНСТЫТУЦЫЮ — АБАРОНІМ СЯБЕ!»** Перад прысутнымі, а іх было каля пяці тысяч, выступілі М.Грыб, С.Багданкевіч, З.Пазьняк і іншыя. Аналагічныя мітынгі прайшлі пад бел-чырвона-белымі сцягамі і ў іншых гарадах нашай краіны.

○ ***УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*** *Уладзімір Пятровіч Рылатка назначаны першым намеснікам міністра культуры. Раней ён займаў пасаду намесніка міністра ў гэтым жа міністэрстве.*

○ **СТВОРАНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСКІХ ГРАМАДЗЯН.** У адным з інтэрв'ю для СМІ кардынатар камітэта Віктар Івашкевіч сказаў: «Камітэт павінен выканаць канкрэтную і, у пэўным сэнсе, кароткатэрміновую задачу — адстаяць існаванне незалежнай Беларусі як суб'екта міжнароднага права. База для камітэта — Закон аб грамадзянстве».

○ ***МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПАДПІСАЛА ПАГАДНЕННЕ*** *аб супрацоўніцтве з Беларускім Экзархатам Рускай праваслаўнай царквы. Галоўная мэта супрацоўніцтва — адраджэнне духоўнасці, маральных каштоўнасцяў і культурных традыцый беларускага народа.*

○ **ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ І ПАЭЗІІ** сёлета вернецца ў Маладзечна. Арганізатары фестывалю запэўніваюць, што песні, якія прагучаць 14, 15 і 16 чэрвеня, будуць толькі на беларускай мове.

○ ***ГАЗЕТА «НАША НІВА»,*** *якая да апошняга часу выходзіла нерэгулярна, з 1 сакавіка стала штотыднёвікам і ўжо выйшлі ў свет тры яе нумары. Рэдакцыя газеты пераехала з Вільні ў Менск.*

○ **УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗНЯТЫ З ПАСАДЫ** галоўны рэдактар «Народнай газеты», заснавальнікам якой з'яўляецца Вярхоўны Савет Беларусі. Сам заснавальнік пакуль не зрэагаваў, але вось у Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, СМІ, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі думкі кіраўнікоў падзяліліся. Ігар Катляроў, вядомы камуністычнай апантанасцю — задаволены. Ягоны намеснік Уладзімір Нісцюк лічыць, што гэта на шкоду газеце. Сам галоўны рэдактар, М.Галко, тае думкі, што адбываецца паляванне не на яго асобу, а на «Народную газету» ў цэлым.

**Да ведама ўдзельнікаў канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы...»**

Як і паведамлялася, канферэнцыя адбудзецца 30 сакавіка ў Доме літаратара (вул.Фрунзе,5). Пачатак а 10.00 гадзіне. Заканчэнне — а 18.00 гадзіне.

*Аргкамітэт.*

## Выдаўцы незалежнай прэсы падтрымліваюць беларускасць

Два дні ў Міжнародным адукацыйным цэнтры ў Менску працавала першая агульнанацыянальная канферэнцыя выдаўцоў і галоўных рэдактараў незалежнай прэсы, наладжаная Беларускай асацыяцыяй журналістаў (БАЖ) і «Цэнтрам Супольнасць» пры падтрымцы Інстытута на карысць дэмакратыі ва Усходняй Еўропе і менскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра Беларускага фонду Сораса. Канферэнцыя аказалася прадстаўнічай, і размова атрымалася вельмі грунтоўнай і карыснай. Варта адзначыць, што значная частка выступоўцаў карысталася беларускай мовай. Ёю ж добра карысталіся і перакладчыкі з замежных моў — англійскай ды польскай, а Павэл Казанецкі, выканаўчы дырэктар Інстытута на карысць дэмакратыі ва Усходняй Еўропе (Варшава), і сам выступіў па-беларуску. Грунтоўнымі былі даклады каардынатара Міжнароднай федэрацыі выдаўцоў газет пані Аралін МакМэйн і віцэ-прэзідэнта Згуртавання польскіх журналістаў пана Ігнаца Рукевіча. Увесь час разам з журналістамі і выдаўцамі актыўна працавалі дэпутаты Вярхоўнага Савета Уладзімір Нісцюк — намеснік старшыні Пастаяннай камісіі ВС па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, СМІ, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі, і Аляксандр Дабравольскі — старшыня падкамісіі па СМІ і сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі.

Урэшце канферэнцыя прыняла Зварот да беларускай грамадскасці і вышэйшых органаў дзяржаўнай улады. Звернута ўвага на непрымальную манаполію на сродкі масавай інфармацыі, паліграфічную базу і распаўсюджванне перыядычных выданняў дзяржаўнымі ўстановамі, што вядзе да аднабаковага, скажонага інфармавання народа і парушэння правоў чалавека.

Звернута таксама пільная ўвага на тое, што беларускамоўныя сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца ў значна горшым фінансавым стане за расійскамоўныя з-за цяперашняй дыскрымінацыі беларускай мовы, што перашкаджае нармальнаму культурна-грамадскаму развіццю народа. Прапанаваны канкрэтныя шляхі выйсця з цяперашняга заганнага стану са свабодай слова ў Беларусі.

**Ул.Ас.**

## «ГРАК» — ПТУШКА ВЯСНОВАЯ

У нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя прадстаўнікоў Грамадскага руху ў абарону Канстытуцыі (ГРАК), пад час якой прадстаўнікі 15 партый і грамадскіх арганізацый паведамілі журналістам пра мэты і задачы аб'яднання. Адзначалася, што апошнім часам выканаўчай уладай неаднаразова парушаўся Асноўны Закон дзяржавы, правы і свабоды яе грамадзян. У гэтых умовах становіцца рэальнай пагроза спаўзання краіны да аўтарытарызму, таму здаровыя грамадскія сілы вырашылі аб'яднаць свае намаганні па абароне Канстытуцыі.

На пытанне, ці збіраецца Грамадскі рух бараніць правы беларускай мовы і супрацьстаяць разбурэнню нацыянальнай сістэмы адукацыі, удзельнікі прэс-канферэнцыі адназначна заявілі пра свой намер цвёрда стаяць на пазіцыях абароны роднай мовы і канстытуцыйнага права грамадзян атрымліваць на ёй адукацыю. Прадстаўнікі ГРАКа прымуць удзел у наладжанай з ініцыятывы ТБМ імя Ф.Скарыны 30 сакавіка канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі». Была выказана думка ініцыіраваць перагляд вынікаў леташняга рэферэндуму па першым пытанні на падставе яго неадпаведнасці Канстытуцыі і Закону аб рэферэндуме ў РБ.

**А.Н.**

## BELARUSIAN CONGRESS COMMITTEE OF AMERICA
## (БЕЛАРУСКІ КАНГРЭСАВЫ КАМІТЭТ АМЭРЫКІ)

Вельмі Паважаны Спадар Эрнэст Ялугін, Рэдактар газэты «Наша Слова»
Дарагія Суродзічы!

Надыйшоў наш Вялікі Сакавік — 78-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі — нашае нацыянальнае сьвята, якое мы заўсёды ўрачыста адзначаем.

Апошнімі часамі паўстала вялікая пагроза ня толькі беларускай незалежнасьці, але нават існаваньню беларусаў, як нацыі. Аб'яднаўшыся тут на эміграцыі, мы павінны разам з сваімі братамі на Бацькаўшчыне прыкласьці ўсю сваю энэргію і творчыя сілы, каб не дапусьціць страты беларускае дзяржаўнасьці.

Няхай Вялікі Сакавік вядзе нас да здабыцьця волі нашаму народу і поўнае незалежнасьці нашай любай Беларусі! Няхай сьвеціцца запаленая іскрынка свабоды на нашай Бацькаўшчыне!

Няхай жыве вольная і дэмакратычная Беларусь!

**Міхась Сенька**
**Сакратар**

**Расьціслаў Завістовіч**
**Старшыня**



Плошча Волі. 25 сакавіка 1990 года.

## У МЕНСКАЙ ГАРАДСКОЙ РАДЗЕ ТБМ

На чарговым пасяджэнні абмеркавана пытанне аб падрыхтоўцы і правядзенні ў траўні «круглага стала» на тэму: «Захаванне моўнага рэжыму ў беларускамоўных навучальных установах г.Менска». Для ўдзелу ў рабоце мяркуецца запрасіць кіраўнікоў ГУНА, загадчыкаў раённых аддзелаў, дырэктараў школ, ліцэяў, педагагічных вучылішчаў, настаўнікаў, бацькоў, рэктараў і дэканаў педагагічных універсітэтаў, дырэктараў выдавецтваў «Народная асвета», «Юнацтва», «Вышэйшая школа», «Універсітэцкае» і інш., а таксама журналістаў. Ласкава просім фундатараў і ўсіх, хто разумее злабадзённасць і актуальнасць штучна створанай дзяржавай праблемы, далучыцца да выратавання беларускамоўнай сістэмы выхавання і навучання (тэл. 2-21-71-50).

Прынята рашэнне рэкамендаваць ва ўсіх навучальных установах пры суполках ТБМ стварыць «Студэнцкі (вучнёўскі) навукова-асветніцкі клуб імя Ф.Скарыны».

Рада падтрымала Заяву гарадскога сходу прадстаўнікоў суполак ТБМ, прадпрыемстваў, ВНУ, арганізацый, настаўнікаў і бацькоў беларускамоўных класаў г.Віцебска супраць дзяржаўнай русіфікацыі і асіміляцыі беларускага народа, якія праводзяцца пад шавіністычным парасонам так званай славянскай еднасці. Рада ТБМ сталіцы цешыцца актыўнасці і плённай працы калег у абласцях і раёнах Беларусі.

Рада працягвае навукова-практычны аналіз шкоды ад «дальнабачнай палітыкі» міністра адукацыі і навукі В.Стражава — адмены выпускнога экзамена па беларускай мове за сярэднюю школу.

Абмеркаваны артыкул «Ці быў кампутар?» («Наша слова», № 7, 96 г.) і прынята заява да Сакратарыята рэспубліканскай Рады з просьбай высветліць мэты гэтай публікацыі, выказаць свае погляды і даць ёй ацэнку.

**Прэс-цэнтр Рады ТБМ г.Менска.**

# Падзеі і даты ў красавіку

**1 красавіка** — дзень жартаў і вясёлых падманаў. Звычай гэты паходзіць з Старажытнага Рыма, дзе ён называўся «святам безразважнасці».
— 45 гадоў таму ўтворана выдавецтва «Народная асвета».

**4 красавіка** — будзе зацменне Месяца. Цікава, што 65 гадоў таму — 2 красавіка 1931 года ў нашым краі назіралася такая ж з'ява.

**5 красавіка** — 60 гадоў з дня нараджэння Рамана Тармолы, беларускага паэта.

**6 красавіка** — 60 гадоў з дня нараджэння Генадзя Шупенькі, беларускага крытыка і літаратуразнаўца.
— 100 гадоў таму, пасля амаль тысячагадовага перапынку, у Афінах адбыліся першыя сучасныя Алімпійскія гульні. Працягваліся з 6 па 15 красавіка.
— 50 гадоў з дня нараджэння Валянціны Коўтун, беларускай паэтэсы.

**7 красавіка** — Вялікдзень каталіцкай канфесіі.
— 120 гадоў з дня нараджэння І.С.Свянціцкага, украінскага філолага-славіста, даследніка беларускага пісьменства.
— 70 гадоў таму ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову аб увядзенні ў Беларусі абавязковай пачатковай адукацыі.

**8 красавіка** — 40 гадоў з дня адкрыцця Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

**10 красавіка** — 65 гадоў з дня нараджэння Івана Чыгрына, беларускага крытыка і літаратуразнаўца.

**11 красавіка** — 50 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Церабуна, беларускага скульптара.
— 70 гадоў з дня заснавання Таварыства культурных сувязей БССР з замежжам (з 1958 — Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі).

**12 красавіка** — 78 гадоў таму Народны Сакратарыят БНР прыняў Пастанову аб абвяшчэнні беларускай мовы дзяржаўнай.
— Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі.
35 гадоў таму на касмічным караблі «Усход» Юрый Гагарын зрабіў першы арбітальны касмічны 108-хвілінны палёт, які, як нядаўна паведамілі заходнія радыё і газеты, ледзь не скончыўся трагічна.

**14 красавіка** — Вялікдзень праваслаўнай канфесіі.
— 895 гадоў з дня смерці Усяслава Брачыславіча, князя Полацкага ў 1044—1101 гг., якога называлі Усяславам Чарадзеем, праслаўленага ў паэме «Слова пра паход Ігараў».
— 110 гадоў з дня выхаду першага нумара газеты «Минский листок».

**15 красавіка** — 90 гадоў з дня нараджэння І.В.Гутарава (1906—1967), беларускага крытыка і літаратуразнаўца.
— 80 гадоў з дня нараджэння Марыі Барсток (1916—1994), беларускага крытыка і літаратуразнаўца.

**16 красавіка** — 65 гадоў з дня нараджэння Вацлава Жыдліцкага, чэшскага славіста, даследніка беларускай літаратуры.

**17 красавіка** — 105 гадоў з дня нараджэння Язэпа Варонкі (1891—1952), дзеяча беларускага нацыянальнага дзяржаўнага адраджэння, аднаго з заснавальнікаў БНР.
— 60 гадоў з дня нараджэння Міхася Рудкоўскага, беларускага паэта і перакладчыка.

**18 красавіка** — 105 гадоў з дня нараджэння Лявона Гмырака (М.Бабровіча), беларускага крытыка, публіцыста і празаіка.

**19 красавіка** — 115 гадоў з дня нараджэння У.М.Ігнатоўскага, беларускага гісторыка, грамадскага дзеяча, старшыні Інбелкульта, прэзідэнта АН БССР.

**20 красавіка** — 465 гадоў таму Слонім атрымаў магдэбургскае права.
— 90 гадоў таму ў маёнтку Пятроўшчына (цяпер у межах Менска каля мікрараёна Паўднёвы Захад-1) адбыўся адзін з першых тэатральных спектакляў на беларускай мове. Была пастаўлена камедыя М.Крапіўніцкага «Па рэвізіі», перакладзеная з украінскай на беларускую вядомым грамадскім дзеячам, доктарам Напалеонам Чарноцкім.

**21 красавіка** — 75 гадоў з дня выхаду маладзёжнай газеты «Красная смена» (спачатку выдавалася на расійскай мове), цяпер — «Чырвоная змена».

**23 красавіка** — 165 гадоў таму нарадзіўся Уладзіслаў Борзабагаты, паплечнік Кастуся Каліноўскага, паўстанцкі камісар Навагарадскага павета.
— 110 гадоў з дня нараджэння Змітрака Бядулі (Самуіла Яфімавіча Плаўніка), беларускага пісьменніка.
— 410 гадоў таму «року 1586 на святога Юра мароз быў, а снег у калена выпаў».

**24 красавіка** — 225 гадоў з дня нараджэння Самуэля Багуміла Ліндэ, вядомага польскага лексікографа шведскага паходжання, аўтара фундаментальнага «Слоўніка польскай мовы», у які ўключаны шматлікія беларускія лексемы, даследніка беларускай мовы.
— 60 гадоў з дня нараджэння Веры Рыч, англійскай паэтэсы, перакладчыцы беларускай паэзіі.

**25 красавіка** — пачатак лета паводле ісландскага календара (год дзеліцца на зіму і лета).

**26 красавіка** — 10 гадоў таму здарылася чарнобыльская аварыя.

**27 красавіка** — 1945 года Беларуская ССР прынята ў лік членаў-заснавальнікаў ААН.

**29 красавіка** — 75 гадоў Міколу Ермаловічу, гісторыку і літаратуразнаўцу, духоўнаму волату нашага народа, аўтару кніг «Па слядах аднаго міфа» і «Старажытная Беларусь».
— 100 гадоў з дня нараджэння І.Ф.Гаркушы, беларускага навукоўца-глебазнаўца.
— 90 гадоў з дня нараджэння Сяргея Фаміна, беларускага паэта.
— 141 год таму Яўстахам Тышкевічам заснаваны Віленскі музей старажытнасцяў. Браты Тышкевічы перавезлі туды з Лагойска свае надзвычай багатыя археалагічныя калекцыі, а таксама 3 тысячы рэдкіх кніг, слуцкія паясы ды іншыя творы беларускага мастацтва, вырабы беларускіх майстроў.

**30 красавіка** — 115 гадоў з дня нараджэння Янкі Журбы (Івана Івашына), беларускага паэта.

## Чытачы пра «Наша слова»






## АЛЕ!

# ПАПЕРАД БАЦЬКІ...

Прама дзіву даешся, як некаторыя гаспадары той ці іншай прыступкі «вертыкальнай лесвіцы» імкнуцца апярэдзіць нават Прэзідэнта. Такую б заўзятасць і руплівасць — ды на карысную справу! Але ж...

Настаўніца Плешчыцкай васьмігодкі, што ў Шклоўскім раёне, А.Падсценная напісала заяву ў раённы аддзел адукацыі (РАА) аб некалькіх днях адпачынку без захавання зарплаты. Як і трэба было чакаць ад настаўніцы беларускай мовы, заяву напісала на сваёй мове. Праз некалькі дзён у школу патэлефанавалі з РАА: «Просим приехать, переписать заявление. У нас документация ведётся на русском языке». Прыйшлося жанчыне ехаць у райцэнтр, каб перапісаць заяву.

Можна было б і нам пракаменціраваць факт, але ж хочацца пачуць адпаведны каментарый загадчыка Шклоўскага РАА. Няўжо гэта ён такі ініцыятыўны?

**М.БУЛАВАЦКІ, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ.**

## Пытанне — адказ

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Вельмі люблю і чытаю Вашу газету. Цяпер Вы сталі маёй апошняй надзеяй. Я прагледзела шмат літаратуры для абітурыентаў, але не знайшла таго, чаго шукала.

Ведаю, што ў Віцебску ёсць духоўнае жаночае вучылішча. Калі ласка, адкажыце на мае пытанні:

*1. Тэрмін навучання?*
*2. Формы навучання?*
*3. Якую адукацыю трэба мець?*
*4. Якія прыёмныя іспыты?*
*5. Спецыяльнасці і адпаведныя ім дысцыпліны?*
*6. Каго рыхтуе вучылішча?*
*7. Адрас і тэлефон?*

Вельмі ўдзячна за дапамогу.

Вы дапаможаце многім вучням.

**А.Федарэнка.**

**Наколькі нам удалося высветліць, жаночай духоўнай вучэльні ў Віцебску не існуе.**

**На жаль, вы ў сваім лісце не паведамілі, духоўная вучэльня якой канфесіі вас цікавіць, таму мы вырашылі падаць спіс духоўных устаноў для свецкіх самых значных хрысціянскіх канфесій.**

***Праваслаўная.* Вучэльня пры епархіяльнай управе Беларускага Экзархата: г. Менск, вул. Вызвалення, 10. Рыхтуе рэгентаў царкоўных хароў, псаломшчыкаў і інш. Прымаюцца дзяўчаты ад 18-ці гадоў, пажадана з музычнай адукацыяй. Тэрмін навучання 2 гады.**

***Каталіцкая.* Тэалагічны вышэйшы каледж: г.Баранавічы, вул. Шаўчэнкі, 6. Тэрмін навучання 3 гады. Рыхтуе выкладчыкаў навукі рэлігіі нядзельных школ.**

***Інстытут вышэйшай рэлігійнай культуры:* г.Гродна, вул. Парыжскай Камуны, 1. Тэрмін навучання 3 гады. Інстытут рыхтуе выкладчыкаў навукі рэлігіі.**

***Евангельскія хрысціяне-баптысты. Біблейскі інстытут:* г.Менск, вул. Я.Райніса, 6. Факультэты:**

**1. Тэалагічны — рыхтуе пастыраў-прапаведнікаў;**

**2. Выкладчыцкі — выкладчыкаў нядзельных школ;**

**3. Музычны — рэгентаў царкоўных хароў і кіраўнікоў аркестраў.**

**Тэрмін навучання 2 гады.**

**Падрыхтаваў А.Н.**

## У ГАЗЕТАХ

# «Учынак месяца» — абараніць народ ад «сваёй» арміі

Штомесяц уплывовая і шматтыражная газета-тыднёвік «Московские новости» праводзіць апытанне кіраўнікоў айчынных сродкаў масавай інфармацыі (СМІ) і замежных журналістаў, якія працуюць у Маскве, з мэтай вызначыць «учынак месяца» ў Расіі. У лютым гэта аказалася заява Барыса Ельцына аб жаданні змагацца за перавыбранне на чарговы тэрмін прэзідэнцтва. У чым тут бачыцца подзвіг — не зусім зразумела, бо прававой і палітычнай стабільнасці ў Расіі пакуль няма, і ў Барыса Ельцына спрацаваў інстынкт самазахавання: інакш, калі перамогуць зюганаўцы, а не нехта з дэмакратычнага лагера, яму абавязкова ўчыняць па-камуністычнаму цынічную і бязлітасную расправу, абвінаваціўшы за ўсе «развалы».

Хутчэй можна пагадзіцца з тымі экспертамі, якія ўчынкам месяца назвалі рашучую абарону свайго народа прэзідэнтам Інгушэціі былым «героем Афганістана» Русланам Авушавым. Галоўны рэдактар часопіса «Новое время» Аляксандр Пумпянскі так выказаўся: «Учынак месяца зрабіў Руслан Авушаў, які выратаваў свае паселішчы ад расійскага «галіяфа», падаў на яго ў суд і бліскуча выступіў па тэлебачанні».

Тут варта згадаць, што прэзідэнт Інгушэціі вымушаны быў перад тым доўга змагацца з генералітэтам Расійскай арміі, якая пачала бамбіць і расстрэльваць інгушскае насельніцтва нібыта за дапамогу чачэнцам і бесцырымонна карыстацца тэрыторыяй аўтаномнай рэспублікі. На пратэсты Авушава, што ўсё робіцца без ніякага нават узгаднення з вярхоўнай уладай Інгушэціі, яму адказвалі: армія знаходзіцца на расійскай тэрыторыі і таму робіць, што і калі ёй трэба. Такая вось «аўтаномія» па-расійску ў дачыненні да «меншых братоў», кіраўніцтву якіх урэшце даводзіцца рабіць ажно геройскія ўчынкі, каб абараніць насельніцтва ад «сваёй» арміі.

**Ул.Ас.**

## ЗНОЎ ШУКАЮЦЬ АЎТАРА ПАЭМЫ...

«...Роўна праз год пасля знакамітага «Лукі» адразу ў двух менскіх выданнях — газетах «Здравый смысл» і «Свабодныя прафсаюзы» амаль адначасова ўбачыла свет яшчэ адна паэма. На гэты раз нейкі Іван Калідораў, расійскамоўны шукальнік славы Ведзьмака Лысагорскага, вынес на суд грамадскасці сваю працу, якая мела сціплы і ласкавы загаловак: «Баценька». І што вы думаеце? Не паспелі яшчэ «Свабодныя прафсаюзы» надрукаваць трэцюю, заключную частку паэмы, як рэдакцыя атрымала з пракуратуры папярэджанне пра магчымае закрыццё газеты, а паводле Закона аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі працэдура закрыцця друкаванага органа можа пачынацца пасля другога на працягу года папярэджання. А ўжо калі паэма была надрукавана поўнасцю, гарадская пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факту публічнай абразы прадстаўнікоў улады пры выкананні імі службовых абавязкаў...

Спроба атрымаць нейкую інфармацыю ад супрацьлеглага боку — прадстаўніка «кампетэнтных органаў» — поспеху не мела. На ўсе мае пытанні следчы пракуратуры Цэнтральнага раёна Менска В.А.Магарыл, якому было даручана весці справу, адказваў ветліва і лаканічна: «Ноу коммент!» Што ў перакладзе з англійскай дакладна азначае: «Без каментару!», а калі па-нашаму, папростаму — «Ды пайшоў бы ты!..» Між іншым, я не хачу нейкім чынам пакрыўдзіць паважанага Валянціна Аляксандравіча. Ён чалавек казённы і ўсё гэткае іншае, яго зразумець можна... Да цяперашняга ж часу застаецца загадкай, хто канкрэтна і на што менавіта пакрыўдзіўся?..

Як згадваюць дасведчаныя людзі (у 70-я гады, калі была напісана «Лысая гара». — «НС»), адбыўся цікавы выпадак: на адной нарадзе або пасяджэнні ідэалагічнага зместу да П.М.Машэрава падышоў (тады гэта было прасцей) убелены сівізною мэтр паэзіі і адразу ж пачаў перапрошваць і апраўдвацца: маўляў, не верце, Пятро Міронавіч, маім ворагам, гэта зусім не я — Лысагорскі, у мяне і ў думках не было. А Машэраў усміхнуўся і адказаў прыкладна наступнае: «А ведаеце — мне спадабалася. Вельмі таленавіта!» Ну дык гэта ж быў Машэраў, ён мог сабе дазволіць не толькі рабіць уражанне разумнага чалавека, але ж быць такім».

*(«Фемида», № 11, 1996 г.)*

## СПЯВАК ПЕРАКВАЛІФІКАВАЎСЯ Ў ПІСЬМЕННІКА І ЖУРНАЛІСТА

«...Удзельнік першага складу гурта «Кіно» (Расія. — «НС») Аляксей Рыбін працуе над новай кнігай. На гэты раз твор з музыкай ніяк не звязаны — дэтэктыў. У вольны ад працы час Аляксей рэдагуе першую рок-н-рольную газету «Ниоткуда»..»

*(«Частная собственность», № 10, 1996 г.)*

## ДЗЕЦІ ПІШУЦЬ ПРА ЧАРНОБЫЛЬСКУЮ БЯДУ

«Рэдактар «Набата» пісьменнік В.Ц.Якавенка, адказная за выданне журналістка А.М.Мімрык ды іншыя супрацоўнікі рэдакцыі правялі цікавую і надзвычай патрэбную акцыю — рэспубліканскі конкурс школьнікаў на тэму «Чарнобыль у маім лёсе». У сваіх сачыненнях вучні 6—11 класаў выказалі асабістае меркаванне пра самую вялікую экалагічную катастрофу сучаснасці. Гэта літаральна крык душы дзяцей, якія сталі бязвіннымі ахвярамі авантурысцкай палітыкі «паскарэнняў» ды «перабудоў». Больш сотні лепшых сачыненняў, дзесяткі малюнкаў і фотаздымкаў склалі унікальную па сваёй дакументальнасці, непадкупнасці і эмацыйным уздзеянні кнігу «След чорнага ветру». Недарэмна кніга ў год свайго выдання была перакладзена на японскую мову, а зараз вырашаецца пытанне пра яе нямецкае ды англійскае выданне...»

*(«Набат», № 2, 1996 г.)*

## МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ «ГАЛЕРЭЯ» — ПАД АДКРЫТЫМ НЕБАМ

«У Маладзечне побач з мясцовым калгасным рынкам знайшла прытулак выстава-продаж мастацтва: цікавыя пейзажы, нацюрморты, партрэты... Найлепш купляюць у перадсвяточныя дні ў якасці падарункаў. Бяруць карціны і аматары жывапісу, каб упрыгожыць сваё жытло. Здараецца, купляе карціны не той, хто разумее мастацтва, а той, хто мае грошы...

— Мінуў год, як мастакі Маладзечна атрымалі з дапамогай аддзела культуры гарвыканкама афіцыйны дазвол на існаванне выставы-продажу, — расказвае мастак А.Банцараў. — Але ж умовы, у якіх яна праводзіцца, не адпавядаюць неабходным патрабаванням. Пад адкрытым небам карціны ў дарагіх рамах псуюцца ад вільгаці ды пылу. Адсутнічае і спакойная атмасфера для ўспрымання твораў мастацтва. А гэта значыць, што самыя лепшыя з іх, выкананыя з душой і сапраўдным майстэрствам, не часта з'яўляюцца на вуліцы пад дажджом і снегам. Яны клапатліва захоўваюцца ў майстэрнях і сховішчах, чакаюць свайго часу, калі ў горадзе з'явіцца свая мастацкая галерэя...»

*(«Рэгіянальная газета», № 10, 1996 г.)*

***Беларускі гісторык і грамадскі дзеяч са Злучаных Штатаў Амерыкі Міхась Белямук падзяліў лёс сотняў тысяч тых нашых суайчыннікаў, якія знайшлі сабе прытулак пасля вайны ў чужым свеце. Менавіта Другая сусветная вайна, на думку даследчыкаў, выклікала найбольшую хвалю эміграцыі з Беларусі. У чэрвені 1941 г. сям'я Белемукоў была ў спісе тых, каго прымусова меліся вывезці ў Сібір, але вайна перашкодзіла гэтай акцыі. Таму ў 1944 г., ратуючыся ад «раскулачвання» і высылкі, вырашылі выехаць (уцячы) чым далей на Захад. Пасля капітуляцыі гітлераўскага рэйха Міхась Белямук апынуўся на тэрыторыі Заходняй Германіі ў лагеры для перамешчаных асоб. Лагер быў нацыянальны. У ім, як сведчыць А.Вініцкі ў сваёй кнізе «Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне», «кіраўніцтва школы і розныя арганізацыі мелі амаль нічым неабмежаваную нацыянальную дзейнасць». Жыццё ў лагеры, думаецца, і заклала ў юнаку пачаткі нацыянальнай свядомасці, разуменне таго, што толькі ва ўмовах яднання, узаемадапамогі і арганізаванасці ён з суайчыннікамі здолее выжыць і цывілізавана ладзіць побыт на чужыне. Пераехаўшы з Германіі ў Кліўленд (ЗША), Белямук становіцца ў шэрагі той беларускай эміграцыі, якая ў далейшым шмат зробіць для захавання і развіцця на чужой зямлі роднай мовы і культуры, будзе гуртаваць суродзічаў у свае нацыянальныя аб'яднанні. Працуючы на непрэстыжных і цяжкіх работах, выкрайваючы час для вучобы і самаадукацыі, Белямук разам з тым займаецца грамадскай дзейнасцю, даследуе беларускую сфагістыку, геральдыку, нумізматыку, за што ў 1993 г. яму нададзена званне ганаровага члена Інстытута гісторыі АН Беларусі. Адна са сфер дзейнасці Белемука — журналістыка. Ён увесь час друкуецца ў эмігранцкіх выданнях, а ў 1991—1994 гг. фундуе і выдае ў інтарэсах беларускага адраджэння часопіс «Полацак».***

*Замежжа*

# Беларускім шляхам у эміграцыі

**— Спадар Белямук, з чаго пачалася Ваша грамадская дзейнасць у эміграцыі?**

— Вясной 1947 г. я прыехаў у Міхельсдорф (Баварыя), каб вучыцца ў беларускай гімназіі імя Я.Купалы. Паколькі ў 1935—1939 гг. я належаў да скаўцкае арганізацыі ў Польшчы, дык шэф беларускага скаўтынгу ў Нямеччыне Вацлаў Панукевіч прызначыў мяне кіраўніком Шостага скаўцкага сцягу ў Віндзішбергердорфе, па суседству з Міхельсдорфам, дзе знаходзіўся беларускі лагер для перамешчаных асоб. Шосты сцяг складаўся з двух звязаў скаўтаў і аднаго — скаўтак. У звязах хлапцоў было па чатыры дружыны — у кожнай па семсовем асоб. У звязе скаўтак было пяць дружын па восем асоб у кожнай. Сцяжному Шостага сцягу падпарадкоўваліся дзве грамады — «ваўчанятаў» і «пралесак». Кожная налічвала каля трыццаці дзяцей ва ўзросце ад сямі да дванаццаці гадоў. Праца з моладдзю абавязвала мяне працаваць над сабой, праяўляць патрыятызм, спачувальнасць, маральнасць. Скаўты і скаўткі былі вучнямі Купалаўскай гімназіі. Настаўнікі з бацькамі назіралі за паводзінамі сцяжнога, звязовых і дружыновых. Яны патрабавалі, каб усе яны былі прыкладам для моладзі, асабліва ў маральным плане.

**— А як Вы сталі арганізатарам беларускай калоніі ў Кліўлендзе?**

— Пераехаў я ў Кліўленд у 1949 г. і адразу пачаў думаць, як дапамагчы сваім скаўтам з Нямеччыны перабрацца таксама ў ЗША. Як аказалася, зрабіць гэта было нялёгка. У той час, калі ўсе нацыянальнасці мелі свае арганізацыі (навуковыя, грамадскія, рэлігійныя), якія дапамагалі суродзічам перабрацца з Еўропы на сталае жыхарства ў ЗША, а затым апекаваліся імі, забяспечваючы пры дапамозе спонсараў працай і кватэрамі, у нас, беларусаў, такіх арганізацый не было. Аднак я рызыкнуў і, зрабіўшыся спонсарам, паслаў дваццаці пяці асобам у Нямеччыну запросіны. Эміграцыйныя ўлады мяне прылавілі на чарговых, дваццаць шостых запросінах, і заявілі, што я запрашаю людзей нелегальна. Мне пагражала высылка, дэпартацыя. Аднак прыгавор злагодзілі пасля таго, як славацкі манашскі ордэн бенедыктынаў паручыўся за мяне і паабяцаў эміграцыйным уладам заапекавацца ўсімі асобамі, якіх я запрасіў.

Хутка пасля майго прыезду ў Кліўленд я пачаў атрымліваць лісты ад беларусаў, якія таксама пераехалі ў Амерыку, завербаваўшыся на працу ў капальні, на плантацыі бавоўны да амерыканскіх фермераў. У Нямеччыне ім шмат чаго наабяцалі, аднак пасля прыезду аказалася, што жыццёвыя ўмовы тут вельмі цяжкія. Прасілі мяне дапамагчы ім пераехаць у Кліўленд, і я стараўся іх просьбы паладзіць, хаця сам не меў сталае работы, а фінансава ледзь-ледзь зводзіў канцы з канцамі. Вось так памаленьку колькасць пасляваенных беларусаў у Кліўлендзе павялічвалася. У кастрычніку 1959 г. я склікаў сход, на якім быў закладзены аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Амерыцы (БАЗА), а ў снежні таго ж года была створана Згуртаванне беларускае моладзі (ЗБМ).

**— Калі ласка, раскажыце падрабязней пра свой удзел у стварэнні БАЗА і ЗБМ у Кліўлендзе і ролі гэтых арганізацый.**

— Як я ўжо казаў, усе нацыянальнасці ў Кліўлендзе, за выняткам нас, беларусаў, мелі свае арганізацыі, культурныя цэнтры і храмы. Мы ж нічога не мелі. Даваенная беларуская эміграцыя тое, што збудавала, называла «русской церковью», «русским народным домом», «русским обществом» (Гродзенскай, Менскай, Віленскай, Смаленскай, Магілёўскай губерняў). Нам прыйшлося закладваць упершыню беларускія арганізацыі, будаваць беларускія цэрквы, выдаваць беларускія часопісы, газеты, кнігі. У Нью-Йорк з сем'ямі пасля вайны прыехалі Янка Станкевіч, Аляксандр Орса, Мікола Дарашэвіч, Мікола Гарошка, Пётр Кажура і Янка Ніхаёнак. Яны з жонкамі сабраліся 31 ліпеня 1949 г. у хаце Станкевіча і пастанавілі залажыць БАЗА. Таксама на гэтай зборцы даручылі Станкевічу запрапанаваць мне стаць пятнаццатым сябрам гэтай арганізацыі, а паколькі я згадзіўся, даручылі мне арганізаваць аддзел БАЗА ў Кліўлендзе. Калі пастанова аб стварэнні БАЗА была прынятая, трэба было статут зарэгістраваць у штаце Нью-Йорка. А каб БАЗА магла закладваць аддзелы ў іншых штатах, трэба было атрымаць чартэр ад Федэральнага суда. Я яго атрымаў у ліпені 1950 г. і пачаў думаць аб скліканні сходу суродзічаў, каб залажыць аддзел БАЗА ў Кліўлендзе. Зрабіць гэта было нялёгка. Справа ў тым, што ў Нямеччыне беларусы дзяліліся на «крывічоў» і «зарубежнікаў». Я, запрашаючы скаўтаў, не браў пад увагу палітычныя погляды іх бацькоў. Такім чынам, ладная колькасць тых, хто прыехаў у Кліўленд, былі «зарубежнікамі». БАЗА ж у Нью-Йорку была арганізавана «крывічамі». Я прадбачыў, што на сходзе паміж групоўкамі могуць разгарэцца спрэчкі, закіды, абвінавачванні, і людзі, перасварыўшыся, могуць разысціся. Сход можа спрычыніцца да падзелу калоніі.

Я пачаў перамовы з апазіцыяй. Стараўся пераканаць, што наш аддзел БАЗА не будзе займацца палітычнымі мерапрыемствамі на карысць БНР і практычна застанецца самастойным, а я не прэтэндую быць яго старшынём. Аддзел будзе проста дапамагаць беларусам пераязджаць з Еўропы ў Кліўленд і тут ладзіць сваё жыццё. Сход суродзічаў Кліўленда быў скліканы 1 кастрычніка 1950 г. Ён прайшоў спакойна, і мы без спрэчак залажылі аддзел БАЗА.

Цяпер скажу коратка пра ўтварэнне Згуртавання беларускай моладзі. У Нямеччыне была маладзёжная арганізацыя — скаўтынг. Беларускі скаўтынг быў зарэгістраваны ў галоўнай кватэры сусветнага скаўтынгу як самастойная арганізацыя. Калі мы пераехалі з Нямеччыны ў ЗША, то згубілі прывілею быць самастойнай арганізацыяй, а павінны былі падпарадкавацца амерыканскай скаўцкай адміністрацыі штата. Пастанова аб арганізацыі БАЗА у Кліўлендзе прыспешыла скліканне сходу моладзі, каб вырашыць пытанне адносна будучыні. Я як сцяжны Шостага скаўцкага сцягу склікаў гэты сход 24 снежня 1950 г. і запрапанаваў залажыць Згуртаванне беларускай моладзі. Прысутныя ўхвалілі прапанову і мяне выбралі кіраўніком згуртавання. У сакавіку 1953 г. адбыўся сход беларускай моладзі ў Дэтройце, дзе пастанавілі залажыць свой аддзел ЗБМ. Інакш адбылося ў Нью-Йорку. Старэйшае грамадства параіла моладзі залажыць сваю самастойную арганізацыю — Аб'яднанне беларускай моладзі (АБМ) «Маладняк». У выніку адбыўся падзел беларускай моладзі ў ЗША. Я пачаў дамаўляцца са старшынём «Маладняка» Янкам Ніхаёнкам склікаць з'езд моладзі, на якім стварыць адну арганізацыю. Перамовы ішлі марудна. Нарэшце мы ўсё ж дамовіліся, што з'езд моладзі адбудзецца ў Кліўлендзе 30 снежня 1951 г. Аднак нью-йоркскія дзеячы паставілі ўмову, што пасля аб'яднання галоўнае кіраўніцтва моладзі павінна знаходзіцца менавіта ў Нью-Йорку. Дзеля дабра справы я пагадзіўся на гэта. З'езд пастанавіў, што «Маладняк» перастае існаваць, а дзейнай ёсць ЗБМ. Старшынём арганізацыі стаў М.Тулейка, заступнікам — я.

Дзякуючы БАЗА і ЗБМ у 1950—1960 гг. у Кліўлендзе паўстала Беларуская аўтакефальная праваслаўная парафія Жыровіцкае Божае Маці. Прыхаджане купілі пляц, на якім пабудавалі храм. Для дзяцей арганізавалі нядзельныя школкі. Моладзі дапамаглі стварыць футбольныя і валейбольныя каманды, дружыну лёгкай атлетыкі, дзявочы і мужчынскі хоры, мяшаны хор, танцавальны ансамбль, драматычны гурток, запачаткавалі выданне калядных картак, друкавалі спеўнікі, арганізоўвалі акадэміі, прысвечаныя гісторыі і культуры Беларусі. Прымалі ўдзел у міжнацыянальных фестывалях, выстаўках і сустрэчах.

**— А як сталася, што на вашай царкве быў пастаўлены крыж Ефрасінні Полацкай?**

— Будаўніцтва царквы пачалося ў ліпені 1959 года. Вярнуўшыся з Каламбуса, дзе вучыўся ва універсітэце, я ўключыўся ў будаўніцтва: спраектаваў узор падлогі і выклаў яе пліткамі. Прыхаджане пагадзіліся з маёй прапановай паставіць у інтэр'еры і на купале царквы ефрасіннеўскія крыжы. Аднак Уладыка Васіль прыгразіў царкоўнаму камітэту, што не прыедзе асвячаць царкву, калі яна будзе з такімі крыжамі. Два дні я вёў перамовы з Уладыкам, і вынік быў такім: каб мы да епархіяльнага сабора крыжоў не ставілі. А на епархіяльныя саборы ў трайні наступнага года кліўлендскай дэлегацыі пры дапамозе дэтройцкай удалося палагодзіць справу на карысць ефрасіннеўскага крыжа. Духавенства і некаторыя дэлегацыі зразумелі, што, пратэстуючы супраць гэтага крыжа, яны тым самым кампраметуюць сябе, бо выходзіць, што БАПЦ выступае супраць свайго ж беларускага праваслаўнага крыжа. Я быў вельмі ўзрадаваны нашай перамогай і неадкладна замовіў ефрасіннеўскі пазалочаны крыж на купал царквы Жыровіцкае Божае Маці, заплаціўшы сваімі грашыма.

Прайшло некалькі год. Ефрасіннеўскі крыж паставілі таксама на купалах цэркваў у Адэлаідзе і Мельбурне (Аўстралія), у Гайленд-Парку (Нью-Джэрсі) і ў Нью-Йорку (1988). Пачалі ставіць ефрасіннеўскія крыжы на могілках.

**— Я чула пра выданне сярэбранай плакеткі-іконкі св.Ефрасінні Полацкай, якое Вы ажыццявілі.**

— У верасні 1972 г. у Таронта адбылася 10-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, на якой я запрапанаваў духавенству БАПЦ і эміграцыйным дзеячам адзначыць 800-годдзе патронкі Беларусі — Ефрасінні Полацкай выданнем сярэбранага медаля вагой 200 грамаў. Удзельнікі сустрэчы прынялі прапанову без энтузіязму, але духавенства зацікавілася, і мяне запрасілі на пасяджэнне кансісторыі БАПЦ у Гайленд-Парк. К гэтаму часу я ўжо дамовіўся з выдатным амерыканскім скульптарам Ральфам Менконі, што ён спраектуе медаль задарма, а вядомая фірма «Медалік Арт» зробіць 500 медаляў з высокім рэльефам па зніжанай аплаце за работу. Аднак, калі прадстаўнікі царквы даведаліся, што медалі будуць каштаваць каля 18 тысяч долараў, іх настрой змяніўся. Па сутнасці, царква не захацела стаць іх выдаўцом. Іерархі, параіўшыся з сябрамі кансісторыі, мне сказалі: «Закладвайце свае грошы і пачынайце рабіць, а мы пашукаем, можа, знойдзем зычлівых людзей, якія згодзяцца дапамагчы вам у выданні медаля». Аднак гэта не паўплывала на мае планы. Я не зліквідаваў дамоўленасць са скульптарам і фірмай. На жаль, Менконі памёр, і я мусіў звярнуцца да другога выдатнага скульптара — італьянца Паўло Вінчы, з якім сустракаўся на з'ездах нумізматычнага таварыства. Ён папрасіў мяне прыслаць усё, што напісана пра нашу святую, уключаючы і іконы. Я выслаў Вінчы адпаведную літаратуру пра Ефрасінню Полацкую, здымак знойдзенай у Ноўгарадзе яе асабістай пячаткі і ветліва мне дасланы Георгіем Штыхавым, а таксама фатаграфіі Спаса-Ефрасіннеўскай царквы і Сафійскага сабора з паясненнем, чаму іх выявы трэба змясціць на медалі. Скульптар захапіўся нашай святой і паабяцаў зрабіць мадэль бясплатна. Толькі параіў выдаваць не медаль, а плакетку-іконку памерам 12×16,5 см, прымацаваную да онікасавай пласцінкі. Учытваючыся ў «Жыццё Ефрасінні Полацкай», аналізуючы пячатку, ён прыйшоў да высновы, што святая была вельмі актыўнай асобай і яе жывы дынамічны характар лепш перадасць профіль. Прыблізны кошт выдання 500 іконак складзе 20 тыс. долараў. Іерархі і кансісторыя пагадзіліся з прапановай скульптара, але і гэтым разам не пажадалі стаць выдаўцамі, саслаўшыся на адсутнасць грошай.

Аднаго дня я атрымаў негатыў і фатаграфію іконкі. З негатыва адбіў каля 300 фота і разаслаў іх свецкім і духоўным асобам беларускага паходжання ў ЗША, Канадзе і Аўстраліі з просьбай выказаць свае меркаванні. Паколькі крытычных заўваг не было, я паслаў П.Вінчы 6 тысяч долараў на выраб матрыцы і 5 тысяч на закуп срэбра і выданне першых трыццаці іконак, якія замовілі былыя скаўты. І вось тады пачалася крытыка: чаму гэта іконка зроблена не ў кананічным праваслаўным стылі (як вядома, яна чаканілася і шліфавалася ў Італіі) і чаму святая прадстаўлена ў профіль? З наступнай партыі 10 іконак засталіся непрададзенымі, і мне давялося іх выкупіць і спыніць далейшае выданне. З П.Вінчы мы звярнуліся да нумізматычных таварыстваў і перадалі ім права на далейшае выданне іконак.

**— Я чула, што каляровы партрэт Ф.Скарыны, змешчаны ў энцыклапедычным даведніку «Францішак Скарына і яго час», вашай работы?**

— Сапраўды гэта так. Вясной 1987 г. Вітаўт Кіпель паведаміў мне з Нью-Йорка, што, праглядаючы архіў Вітаўта Тумаша, ён знайшоў у канверце маленькі каляровы негатыў з запіскай: «Францішак Скарына. Зала саракавых». Мы ведалі, што Тумаш тройчы да сваіх артыкулаў аб Скарыне далучаў фатаграфію яго партрэта з Залы саракавых, але яна была чорна-белай (зала ў Падуанскім універсітэце, дзе знаходзіцца сорак партрэтаў найслаўцейшых людзей свету і адзін з іх — Ф.Скарыны. — **Рэд.**). Каляровы негатыў абрадаваў нас, бо быў знойдзены своечасова. Мы мелі надзею змясціць партрэт у энцыклапедычным даведніку, які ў той час рыхтаваўся ў Менску да 500-годдзя вялікага сына Беларусі. Я неадкладна выехаў да Кіпеля, забраў негатыў і зрабіў фатаграфію памерам 8,5×12 см. На жаль, яна аказалася недасканалай, са шматлікімі дэфектамі. Я перафатаграфоўваў партрэт да таго часу, пакуль не давёў яго да памеру 11,5×23 см і не зліквідаваў усе дэфекты. Атрымаўшы дасканалы партрэт Скарыны, я задумаў падаваць яго на каляровым фоне: клаў фатаграфію на аксаміт розных колераў і фатаграфаваў, ужыў шмат спосабаў, каб знаць светлацені ад аксаміту. На ўсю работу патраціў гадзін пяцьдзесят. А што зрабіў пасля? Заказаў у «Кодаку» 40 партрэтаў Скарыны з розным фонам і разаслаў іх у 1987 г. у выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», у Беларускую нацыянальную бібліятэку, у бібліятэкі БДУ і АН Беларусі, у бібліятэкі Гародні, Полацка, Віцебска, Берасця, Вільні, Беластока, Варшавы і Кракава, а таксама некаторым грамадскім дзеячам і прыватным асобам: П.Краўчанку, Г.Бураўкіну, Г.Штыхаву, Б.Саўчанку, Г.Сагановічу, М.Ермаловічу, В.Рабцэвічу, А.Беламу, Р.Казыру ды іншым. Калі выйшаў энцыклапедычны даведнік, я пабачыў, што на старонцы 635 рэпрадукцыя гэтага партрэта змешчана без каментарыяў, з абрэзаным фонам і падкарочаным нізам, у выніку чаго партрэт Скарыны згубіў прапорцыю і выглядаў прысадзістым.

**— Скажыце колькі слоў пра сваю журналісцкую і выдавецкую працу.**

— У амерыканскай зоне Нямеччыны выдаваўся скаўцкі часопіс «Ганец», у выданні якога я прымаў удзел і набываў практыку. Пераехаўшы у ЗША, пачаў пасылаць інфармацыі і артыкулы ў газеты «Бацькаўшчына» і «Беларускі эмігрант», пазней друкаваўся ў газеце «Беларус». Падпісваўся сваім прозвішчам або ставіў ініцыялы М.Б. ці іменем Беластоцкі. Калі залажылі Згуртаванне беларускай моладзі ды пачалі выдаваць часопіс «Віці», пачаў карыстацца псеўданімам Чаромха. Часопіс «Віці», пачынаючы з трэцяга нумара, выдавалі на маёй кватэры. Таксама пасылаў свае артыкулы ў часопісы «Беларускі свет», «Голас царквы», «Царкоўны светач», «Голас часу» і «Полацак». Пра апошні скажу некалькі слоў. Ужо пасля 1987 г. я пачаў думаць аб выданні часопіса, які б друкаваўся ў ЗША, а супрацоўнічалі ў ім беларусы як бацькаўшчыны, так і блізкага і далёкага замежжа. У жніўні 1990 г. прыехала з Менска ў Кліўленд на XIX сустрэчу беларусаў 23-гадовая аспірантка журфака С.Белая. Яна запрапанавала свае паслугі ў выданні часопіса. Каб яна змагла застацца і атрымаць «зялёную карту» (права на жыхарства), я зрабіў яе рэдактарам, узяў на поўнае ўтрыманне, плаціў за набор кожнага нумара 500 долараў. «Полацак» выходзіў рэгулярна (10 нумароў на год) у 1991—1994 гг. У лісце ад 22 лютага 1995 г., які я паслаў у рэдакцыі розных выданняў і чытачам «Полацака», я расказаў, што сталася з гэтым выданнем. Да сказанага дадам, што ў 1984 г. я выдаў брашуру «Др.Ю.Штыхаў» (біяграфія і бібліяграфія Георгія Штыхава), а ў 1986 г. кніжку «Вытокі беларускіх пячатках».

**Падрыхтавала Ірына КРЭНЬ.**

*Падрабязнасці*

# Маскоўская патрыярхія пайшла на другі раскол з Канстанцінопалем

МЫ ПАВЕДАМЛЯЛІ ЎЖО АБ КАНФЛІКЦЕ, які разгарэўся паміж Маскоўскім патрыярхам Алексіем II і Сусветным Канстанцінопальскім патрыярхам Барталамеем І. Падставай канфлікту, нагадаем, паслужыла прыняцце Канстанцінопальскім патрыярхам у сваю юрысдыкцыю Эстонскай Апостальскай Праваслаўнай Царквы (ЭАПЦ).

Амаль усе праваслаўныя цэрквы свету ў сваіх краінах маюць цяпер статус памесных і аўтакефальных, г.зн. самастойных, і толькі ў краінах, якія ўзніклі ў выніку распаду СССР, за выключэннем Украіны, праваслаўныя цэрквы з'яўляюцца часткамі Рускай Праваслаўнай Царквы (РПЦ), тэрыторыі гэтых краін разглядаюцца Маскоўскай патрыярхіяй, як «свае» кананічныя. Гэта практычна адзіная структура на постсавецкай геапалітычнай прасторы, якая засталася некранутай з мінулых часоў. Як гавораць некаторыя палітыкі ў постсавецкіх краінах — апошні асколак імперыі.

Колькасць праваслаўных у Эстоніі сягае некалькіх тысячаў, частку якіх складае расійскамоўнае насельніцтва, а частку — прадстаўнікі эстонскай этнічнай групы сэту.

Кіраўніцтва ЭАПЦ прыхільна ўспрымае ідэю сусветнага праваслаўя, а яго натуральным цэнтрам лічыць Канстанціноль. Апрача гэтага, эстонскае заканадаўства забараняе дзейнасць на сваёй тэрыторыі рэлігійных арганізацый, якія з'яўляюцца аддзяленнямі нацыянальных цэркваў іншых краін. Такім чынам, усё вышэй пералічанае і стала падставай звароту іерархаў ЭАПЦ да Канстанцінопальскага патрыярха з просьбай прыняць эстонскую царкву ў сваю юрысдыкцыю. 20 лютага патрыярх Барталамей І прыняў рашэнне аб кананічным падпарадкаванні эстонскай царквы Канстанцінопалю. У адказ сінод Рускай Праваслаўнай Царквы пастанавіў не ўзгадваць імя Сусветнага Патрыярха пад час набажэнстваў.

Канфлікт разгортваецца і ўжо выйшаў за межы двухбаковых дачыненняў Масквы і Канстанцінопаля. Фінская Аўтаномная Праваслаўная Царква аднназначна падтрымала дзеянні Эстонскай царквы і Канстанцінопальскага патрыярха. Патрыярх Ерусаліма і архіепіскап Грэцыі, маючы даўнія крыўды на Канстанцінопаль, занялі бок Масквы. Ёсць звесткі, што іерархі РПЦ патрабуюць падобнага кроку ад Сербскай Праваслаўнай Царквы. Такім чынам, можна сцвярджаць — канфлікт можа стварыць глыбокі раскол у сусветным праваслаўі.

А тым часам не ўсё спакойна і на Беларусі. Летась пад час візіту ў нашу краіну патрыярха Алексія II запэўнівалі ў вернасці Беларускай царквы Маскве, і раптам з'яўляецца заява лідскай парафіі св.Панцеляймона аб разрыве сувязяў з Беларускім Экзархатам РПЦ і аб пераходзе пад юрысдыкцыю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, якая прызнае найвышэйшым аўтарытэтам Канстанцінопальскага патрыярха. Праваслаўныя епіскапы на Беларусі пакуль робяць выгляд, што нічога надзвычайнага не здарылася, але гэта хутчэй толькі добрая міна. З аўтарытэтных крыніц стала вядома, што яшчэ каля 15 парафій гатовы пайсці тым жа шляхам.

**Ян БАРЫСОЎСКІ.**

## Як паведаміла радыёстанцыя «Голас Амерыкі»

МІТРАПАЛІТ СМАЛЕНСКІ І КАЛІНІНГРАДСКІ КІРЫЛ наладзіў прэс-канферэнцыю ў Свята-Даніілавым манастыры. Як ён заявіў, выхад праваслаўных Эстоніі з улоння Рускай Праваслаўнай Царквы мае палітычную прычыну — стаўленне эстонскага ўрада да праваслаўнага і асабліва расійскамоўнага насельніцтва. Праваслаўную царкву ў Эстоніі лічылі нібыта «пятай калонай», эксплуатаванай у час савецкай акупацыі, паведаміў мітрапаліт Кірыл. Гэта, на ягоную думку, спрыяла выхаду яе з Маскоўскага патрыярхату. Акрамя таго, эстонскія ўлады, паводле словаў мітрапаліта, зарэгістравалі так званы сінод у Стакгольме, у свой час зліквідаваны за неадпаведнасць статуту РПЦ.

Мітрапаліт Кірыл заявіў, што Руская праваслаўная царква мае намер звярнуцца ў Раду Еўропы і Камісію правоў чалавека пры ААН з просьбай аб дапамозе ў вырашэнні гэтай праблемы.

Такім чынам, гэты рэлігійны канфлікт у выніку складанасці расійска-эстонскіх стасункаў, выкліканай становішчам расійцаў у Эстоніі, паступова ператвараецца ў палітычны. Нават прэзідэнт Расіі Ельцын скіраваў прэзідэнту Эстоніі Мэры ліст з выказам занепакоенасці сітуацыяй вакол праваслаўнай царквы ў Эстоніі.

На погляд Якава Кротава, гісторыка рэлігіі, выкладчыка Маскоўскага праваслаўнага універсітэта імя а.Аляксандра Меня, галоўнае ў гэтым канфлікце — не палітычны ці этнічны, а рэлігійны яго аспект. Бо да 1917 года большасць праваслаўных у Эстоніі складалі этнічныя эстонцы. Толькі пасля Другой сусветнай вайны, калі ў Эстонію, дзе ўзровень жыцця быў вышэйшым, пачалася масавая міграцыя з Расіі, колькасць расійцаў сярод эстонскіх праваслаўных стала максімальнай, тым больш, што савецкія ўлады забаранялі эстонцам-пратэстантам усялякую місіянерскую дзейнасць.

— Што змяніцца ад таго, — дадаў Кротаў пазней, — што зменіцца юрысдыкцыя праваслаўных святыняў у Эстоніі? Ніхто не збіраецца іх руйнаваць. Абсалютна ясна, што яны не зачыняцца і будуць надалей весці службу на царкоўнаславянскай, а не на расійскай, грэцкай альбо эстонскай мовах... Значыць, пытанне пераносіцца ў сферы палітычную і нацыянальную...

Усе словы аб тым, што тэрыторыя Расіі альбо Эстоніі ці нейкай іншай краіны з'яўляецца кананічнай тэрыторыяй тае ці іншае царквы, ігнаруюць просты факт: большасць насельніцтва любой краіны сёння складаюць атэісты.

Сёння для эстонцаў праваслаўная царква стала жупелам. З аднолькавай пагардаю яны глядзяць і на расійцаў, і на Канстанцінопаль, і на праваслаўе ўвогуле. А гэтая спрэчка падарвала аўтарытэт царквы пераадусім у вачах атэістаў.

На жаль, пакуль што перамовы не мелі плёну. Бо раз за разам мы сутыкаемся з тым, што грамадскія, дзяржаўныя і царкоўныя лідэры, выхаваныя пры камуністычным рэжыме, не ўмеюць прыходзіць да ўзаемнай згоды. Яны здольныя адно — патрабаваць поўнай капітуляцыі.

**Падрыхтаваў У.П.**

## ДАВЕДКА

*КАНСТАНЦІНОПАЛЬСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА — адна з самых старых памесных аўтакефальных цэркваў. Утворана ў IV стагоддзі на базе сталічнай епархіі Візантыйскай імперыі ў Канстанцінопалі. Яе кіраўнік — патрыярх — лічыцца «першым сярод роўных», г.зн. сярод астатніх кіраўнікоў іншых праваслаўных цэркваў, бо, паводле традыцыі, Канстанцінопальская праваслаўная царква займае «першае месца па славе».*

*Пасля заваёвы ў сярэдзіне XV стагоддзя Візантыі туркамі-асманамі канстанцінопальскія патрыярхі імкнуліся кіраваць усім праваслаўным насельніцтвам Асманскай імперыі, але зрабіць гэтага не здолелі. Царква апынулася ў моцным мусульманскім атачэнні пад уціскам мусульман. У 1923 годзе ўрад Турцыі нават патрабаваў выдалення патрыярхату з Канстанцінопаля.*

*Цяпер Канстанцінопальская праваслаўная царква мае на тэрыторыі Турцыі адну архіепіскапію і чатыры мітраполіі. У межах Турцыі жыве толькі нязначная частка прыналежных да яе вернікаў. Царква мае 23 епархіі і шэраг установаў у краінах Заходняй Еўропы, Азіі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі ды Аўстраліі. Акрамя таго, у яе юрысдыкцыі знаходзяцца святая гара Афон ды Фінляндская аўтаномная праваслаўная царква.*

**Падрыхтаваў У.П.**

## НАГЛЯДАЛЬНІКІ АДЗНАЧАЮЦЬ

УЖО ДРУГІ РАЗ ЗА ТЫСЯЧУ ГАДОЎ па ініцыятыве расійскіх праваслаўных іерархаў адбываецца (з часу хрышчэння Русі) разрыў з духоўнай маці — Візантыйскай царквой, ад якой некалі і было прынята хрысціянства. Першы раз прычынай разрыву стала пагадненне аб паяднанні (уніі) з каталікамі, заключанае Візантыйскай царквой з Рымскай у XV стагоддзі. Тады Хрыстос аказаўся «падзеленым» на карысць дзяржаўных інтарэсаў маскоўскіх вялікіх князёў, якія з дапамогай паслухмяных ім царкоўных іерархаў імкнуліся ўмацаваць і пашырыць на зямлі суседзяў уласную ўладу.

У цяперашнім выпадку не бяруцца нават пад увагу такі аргумент дэмакратыі, як воля большасці праваслаўных прыходаў Эстоніі. Іх — 80, 60 з якіх выказалі жаданне зноў, як тое было да сталінскага прымусу, мець духоўную сувязь з Канстанцінопалем.

Пікантнасць сітуацыі яшчэ і ў тым, што сам Маскоўскі патрыярх Алексій II, нарадзіўшыся некалі ў незалежнай Эстоніі, у дзяцінстве належаў да паствы менавіта Канстанцінопальскай царквы. Але ж, стаўшы вышэйшым духоўным кіраўніком праваслаўных у Расіі, ён цяпер выказвае непрыхаваную адданасць і не вялікадзяржаўным свецкім інтарэсам. А што ў дадзеным выпадку маецца на ўвазе не духоўныя, а менавіта дзяржаўныя інтарэсы, красамоўна сведчыць той факт, як актыўна заступілася за «сваю» патрыярхію вышэйшая расійская ўлада — Міністэрства замежных спраў з адпаведнымі нотамі, нават сам прэзідэнт.

Дасведчаныя наглядальнікі адзначаюць, што цяперашні ўчынак Маскоўскай патрыярхіі тым не менш наўрад ці дапаможа вярнуць Эстонію ці яе праваслаўную частку пад руку Расіі, а вось аўтарытэту расійскага праваслаўя нанесена відавочная шкода, бо на міжнародным узроўні павага да патрыярха Канстанцінопальскага высокая.

**Ул.Ас.**

*Беларускае замежжа*

# Вяртанне прысутнасці

Якраз на Стрэчанне ў Празе адбылася гістарычная падзея — на ўстаноўчым сходзе беларусы, якія жывуць і працуюць у Празе, вырашылі аб'яднацца ў сваю нацыянальную суполку. Іх сябрына стане пражскім аддзяленнем Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», ці займее свой самастойны статус, але сенсацыя ёсць сенсацыяй: праз 75 гадоў з часу паяўлення першых цяпельцаў беларускай прысутнасці ў Празе, ад 15 лютага 1996 года афіцыйна існуе тут беларуская сябрына «Пражакі».

У катэджыку Сержука Сокалава-Воюша сабраліся госці з Менска — удзельнікі культурнай акцыі «Беларусы ў Празе»: прадстаўнікі сябрыны «Беларусь — Чэхія», «ЗБС «Бацькаўшчына»... Не жадаючы пакрыўдзіць тых, каго не назаву, асмелюся згадаць імёны Васіля Быкава, Ганны Сурмач, Ірыны Шаблоўскай, Радзіма Гарэцкага, Лідзіі Савік, Вячкі Станкевіча... Супрацоўнік Беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» Мікола Іваноў прапанаваў абраць старшынём беларускай суполкі ў Празе жыхара стольнага места Чэхіі спадара Юрку Станкевіча, які даўно вывучае тутэйшыя адрасы беларускай прысутнасці, прапагандуе ў Еўропе і Амерыцы культурныя здабыткі беларускай нацыі.

Нас, беларусаў, настолькі чуваць у свеце, наколькі мы адзываемся, наколькі самі даём пра сябе знаць. Цяпер у цэнтры Еўропы будзе гарэць той Зніч, які перадасць з нашае Бацькаўшчыны новыя імпульсы жыццядзейнасці беларусаў.

Суполка сп. Юркі Станкевіча будзе дзеіць у сугуччы з чэшскім аддзяленнем Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, куды ўваходзяць Францішка Сокалава, Вацлаў Жыдліцкі, Міласлаў Зіма... А цётка Каця, якую сп. Ю.Станкевіч зусім выпадкова «вылічыў» з магутнага пражскага бабілону і якая разам з намі прытулялася да надгробкаў суайчыннікаў на Альшанскіх могілках, гаварыла, што ёсць яшчэ беларусы ў гэтым горадзе, які даў у 20-30-40-х гадах прытулак многім нашым землякам. Жывуць іх нашчадкі. І могуць адцепліцца іх сэрцы.

Сонца Беларускае Ідэі ў Празе павярнула на лета. 15 лютага ў гасцёўні Сержука Сокалава-Воюша якраз спраўлялі Грамніцы.

А верш, прысвечаны носьбіту беларускай прысутнасці Юрку Станкевічу, я і прачытаў у той вечар...

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**



*Сяргей ПАНІЗЬНІК*

## Крэўская муроўка

сп. Юрку Станкевічу

*— Па маці я — чэх.*
*Беларус — напалову.*
*...Я веру, не веру*
*прызнальнаму слову.*
*А што ў нас — упоўню?*
*Вярнуўшыся з лову*
*хто — балт напалову,*
*крывіч напалову?*
*Вякі высявалі*
*мякіну-палову.*
*Я ў стоптаным жыце*
*жывы напалову.*
*Направа, налева*
*лажылі галовы.*
*Да трэці у згубе,*
*а то — да паловы.*
*І толькі дзе Крэва*
*акрэсліла змову, —*
*мурой час пакінуў*
*папраўдзе палову.*
*А колькі хвілінак*
*нам даў на дамову*
*ўдзяржавіць астатнюю*
*долі палову?*
*Мы Дом умацуем*
*глыжамі і цэглаю?*
*Мы — нацыя!*
*Будзьма сцяною*
*суцэльнаю!*

Пад мурамі Крэва.

**Фота аўтара.**



